НАША СВАБОДА

№3(90) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

10 СТУДЗЕНЯ 2001 года СЕРАДА

Адрас: 220123, г.Мінск, а/я 103

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ

стр.5



Сіла без высокомерыя

# Крэмль у роздуме наконт Лукашэнкі

Юрась ХМЯЛЬНІЦКІ

9 студзеня завяршыўся першы візіт новага міністра замежных справаў Беларусі Міхаіла Хвастова ў Маскву, дзе ён пазнаёміўся з расійскім калегам Ігарам Івановым. Па выніках перамоваў бакі падпісалі план кансультацыяў паміж МЗС абедзвюх краінаў на 2001 год – плануецца правесці ажно 15 кансультацыяў.

Не сакрэт, што на Міхаіла Хвастова выпала цяжкая доля: весці з Крамлём перамовы наконт прэзідэнцкіх выбараў на Беларусі – міністр гэтага і не хаваў. Беларускаму міністру, відаць, прыйдзецца даказваць, што лепшага прэзідэнта «саюзнай» Беларусі, як Лукашэнка, Маскве не знайсці. А Крэмль, між тым, не спяшаецца выказваць афіцыйную пазіцыю наконт прэзідэнцкай кампаніі, хаця і надзвычай зацікаўлены мець у Беларусі больш прагназуемага прарасійскага прэзідэнта. Больш за тое, відавочныя намаганні рэжыму праз расійскую падтрымку на міжнародным узроўні дамагчыся прызнання цяперашняга рэжыму – гэта надта неабходна напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў. Як сказаў сам М.Хвастоў, ён папрасіў Маскву аказаць падтрымку Беларусі ў набыцці статусу спецыяльна запрошанай у Савеце Еўропы. ►

Заканчэнне на стар.3

# Казака не пускаюць у эфір

Расціслаў ПЕРМЯКОЎ

Амерыканская амбасада ў Мінску змясціла ў інтэрнэце поўны тэкст інтэрв'ю амбасадара Майкла Казака, якое ён даў Беларускаму тэлебачанню, якое так і не выйшла ў эфір.

Беларускае тэлебачанне праяўляе цудоўную непаслядоўнасць. Як стала вядома, у канцы снежня мінулага года Віктар Харкоў з БТ звязаўся з амбасадай і папрасіў аб інтэрв'ю для сваёй праграмы «Свет і мы». Згода была дадзеная, і 21 снежня інтэрв'ю было запісанае. Але ў эфіры БТ яно так і не з'явілася. Пазней супрацоўнікі дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі звязаліся з амбасадай ЗША і паведамілі, што выступ Майкла Казака вырашылі не паказваць.

Магчымы адказ на пытанне, чаму прамова амерыканскага амбасадара не спадабалася БТ-шнаму кіраўніцтву, змяшчаецца ў самім тэксце інтэрв'ю. М.Казак непрыхавана гаворыць пра недэмакратычнасць выбараў у Беларусі, пра нелегітымнасць А.Лукашэнкі і г.д.

На жаль, мы не маем магчымасці даць цалкам тэкст гэтага інтэрв'ю, бо газетная плошча вельмі абмежаваная. Тым не менш, некаторыя цытаты вартыя ўзгадвання (пераклад неафіцыйны). ►

Заканчэнне на стар.3

**Газета НАША СВАБОДА выходзіць па панядзелках, серадах і пятніцах**



Фота REX/ProMedia

У Беларусі пачаўся першы ў XXI ст. прызыў у армію. Бацькі і сваякі развітваюцца з сынамі перад адпраўкай у войска

# Бунт асуджаных у Віцебску

Аляксей ШЫДЛОЎСКІ

**У ноч з 5 на 6 студзеня ў Віцебскай выхаваўча-працоўнай калоніі №1 для непаўнагадовых была жорстка падаўленая спроба бунту.**

Усё пачалося з таго, калі наглядчык запатрабаваў ад аднаго з асуджаных затушыць цыгарэту, якую той паліў у недазволеным месцы. У адказ ахоўнік пачуў усё, што на ягоны конт думаюць. Да асуджанага далучыліся некалькі іншых асуджаных непаўнагадовых. Выкліканая на дапамогу варта павяла іх да намесніка начальніка калоніі па выхаваўчай частцы з мэтай правядзення разбору інцыдэнту.

Ведаючы, што звычайна падобныя інцыдэнты сканчаюцца карцэрам альбо, як мінімум, пазбаўленнем права на перадачу ці спаткання са сваякамі, астатнія непаўнагодкі (а ўсяго іх у калоніі больш за 400 чалавек) выйшлі за межы лакальных сектараў і паспрабавалі адбіць сваіх. Гэта атрымалася, але на тым справа не скончылася. Узбуджаныя поспехам, падлеткі парушылі ўсе магчымыя законы калоніі і ўсчалі там сапраўдны бунт, які доўжыўся ў амаль поўнай цемры цэлую ноч. Непаўнагадовыя «зэкі» запатрабавалі адстаўкі начальніка калоніі і палёгкі на ўмовы ўтрымання. Акрамя таго, паўстанцы вымагалі, каб іх перасталі прымушаць хадзіць шыхтом і не забаранялі захоўваць ежу ў бараках.

На барацьбу з паўстаўшымі вязнямі былі кінутыя ўсе віцебскія і некаторыя абласныя АМАПаўцы. Завязалася жорсткая бойка з ужываннем газу і дубінак. Асуджаныя адступілі ў сцены аднаго з будынкаў калоніі і трымалі там абарону да тае пары, пакуль не вырашана было сцяну барака ўзламаць. Супрацў доўжыўся амаль 15 гадзінаў.

Пра колькасць параненых сярод асуджаных начальства калоніі маўчыць, а сярод АМАПаўцаў 4 шпіталізаваныя, адзін з іх – у вельмі цяжкім стане.

Бунты ў нашых калоніях здараліся і раней. Успомніць можна хоць бы агульнавядомы, але замоўчаны і ранейшымі, і цяперашнімі ўладамі, бунт у калоніі строгага рэжыму, што знаходзілася ў Мінску на вуліцы Ангарскай. Тады, у сярэдзіне 80-ых, яна амаль цалкам згарэла і больш не аднаўлялася. У нядаўняй гісторыі былі толькі спробы масавых уцёкаў з «Валадаркі». ■

# Заява Беларускага Хельсінкскага камітэта

## У сувязі з падзеямі ў віцебскай калоніі

У суботу, 6 студзеня 2001 г., у Віцебскай выхаваўча-працоўнай калоніі для непаўнагадовых пачаліся масавыя беспарадкі, якія былі спыненыя праз штурм казармы АМАПам з выкарыстаннем слезацечнага газу і гумавых палак. Ёсць падазрэньні з абодвух бакоў, калонія панесла значныя матэрыяльныя страты.

РГА «Беларускі Хельсінкскі камітэт» адзначае:

1. Беларуская пенітэнцыярная сістэма з'яўляецца закрытай для грамадскага кантролю.

2. Суды працягваюць неабгрунтавана асуджаць да зняволення за злачынствы, якія не ствараюць небяспекі для грамадства, і не выкарыстоўваюць усе альтэрнатыўныя санкцыі. Гэта вядзе да росту турэмнага насельніцтва, да праблемы перапоўненасці ў месцах пазбаўлення волі.

3. Усё больш кепская эканамічная і сацыяльная сітуацыя ў краіне не дазваляе органам дзяржаўнай улады стварыць належныя ўмовы ўтрымання ў месцах зняволення, да таго ж адсутнасць занятасці яшчэ больш пагаршае псіхалагічны і маральны стан вязняў.

4. Сур'ёзнай праблемай для грамадства з'яўляецца эпідэмія захворвання на туберкулёз і іншыя хваробы ў месцах зняволення.

5. Па сутнасці, прыгавораныя да пазбаўлення волі асуджаюцца і на дадатковыя пакаранні, якімі можна назваць нечалавечыя ўмовы ўтрымання, што вызначаны па міжнародных стандартах як катаванні.

РГА «Беларускі Хельсінкскі камітэт» звяртае ўвагу грамадскасці і органаў дзяржаўнай улады на тое, што Камітэт ААН па барацьбе з катаваннямі ў 2000 г. разгледзеў трэцюю перыядычную справаздачу па Беларусі і прызнаў наяўнасць сур'ёзных парушэнняў правоў чалавека ў пенітэнцыярнай сістэме краіны і адсутнасць эфектыўных мер па паляпшэнні сітуацыі. ■

08.01.2001

# Ёсць загад пазбавіцца незалежных СМІ

Учора, 9 студзеня, у друкарню «Мэджык» з'явіліся судовыя выканаўцы і паводле рашэння Вышэйшага гаспадарчага суда пачалі апячатваць ужо раней апісаную маёмасць прадпрыемства. Паводле нашай інфармацыі, ёсць загад Дзяржаўнаму камітэту па друку пазбавіць усе прыватныя тыпаграфіі, якія маюць ролевыя машыны, магчымасці друкаваць газеты. У «Мэджыку», у прыватнасці, друкуюцца такія шматтыражныя незалежныя выданні, як НАША СВАБОДА, «Народная воля», «Белорусская деловая газета».

Нагадаем, што 18 снежня мінулага года Вышэйшы гаспадарчы суд адмовіў Інстытуту «Адкрытае грамадства» БФС ва ўзбуджэнні іску супраць дзеяння ў Ленінскай раённай падатковай інспекцыі Мінска. Падатковая інспекцыя наклала арышт на абсталяванне, якое належыць Інстытуту і выкарыстоўваецца на ўмовах арэнды друкарняй унітарнага прадпрыемства «Мэджык». Падаткавікі сцвярджаюць, што апісалі друкарскую машыну за нібыта даўгі Беларускага Фонду Сораса па сплаце падаткаў. Яшчэ ў 1997 годзе дзяржава несправядліва запатрабавала ад Фонду Сораса заплаціць вялікія падаткі з тых сумаў, якія Фонд выдзяляў на культурніцкія праекты ў Беларусі, у выніку чаго БФС быў вымушаны згарнуць сваю дзейнасць у Рэспубліцы Беларусь.

Цяпер даўжніком перад дзяржавай аказалася друкарня «Мэджык», якая 9 студзеня і пазбавілася тэхнікі. Учорашні выпадак ставіць пад пагрозу выхад незалежнай прэсы наогул, і гэта нельга расцэніць інакш як чарговыя рэпрэсіі вярхоўных уладаў супраць незалежных СМІ і свабоды слова ў Беларусі наогул. Відавочна, што такія жорсткія заходы ўлада наўмысна робіць напярэдадні маючых адбыцца бліжэйшым часам прэзідэнцкіх выбараў.

## НАВІНЫ

■ **Паводле словаў міністра фінансаў Беларусі Мікалая Корбута, на правядзенне прэзідэнцкіх выбараў-сёлета з дзяржаўнага бюджэту будзе выдаткавана каля 12 мільярдаў рублёў.** На яго думку, гэтай сумы павінна хапіць, бо на выбары ў «палату» ўвосень мінулага года было патрачана 3,4 мільярда рублёў з 4 запланаваных.

■ **На Гродзеншчыне ў кожнай чацвёртай вёсцы не засталося дзяцей, якія б былі малодшыя за 15 гадоў.** Разам з тым у 300 з 4.000 вёсак вобласці абсалютна ўсё насельніцтва складаецца з пенсіянераў. Гэта значыць, што праз некалькі гадоў адбудзецца натуральнае выміранне гэтых паселішчаў.

## НАДВОР'Е НА ЗАЎТРА




**Курс наяўнага долара на «чорным рынку» 1250**

# Крымінальны пераслед віцэ-прэм'ера

Ірына СТАРЦАВА

**Генеральная пракуратура Украіны ўзбудзіла дзве крымінальныя справы супраць віцэ-прэм'ера Украіны Юліі Цімашэнкі. Пра гэта паведаміў намеснік генеральнага пракурора Украіны Мікалай Абыход падчас прэс-канферэнцыі ў Кіеве.**

Юлію Цімашэнку называюць часам ва Украіне «Чубайсам у спадніцы» – да таго, як прыйсці ва ўладу, яна з'яўлялася прэзідэнтам карпарацыі «Адзіныя энергетычныя сістэмы Украіны». Дагэтуль Ю.Цімашэнка лічыцца адным з украінскіх алігархаў.

Па словах М.Абыхода, адна крымінальная справа супраць віцэ-прэм'ера ўзбуджаная па двух артыкулах Крымінальнага кодэкса – «кантрабанда» і «падробка дакументаў»; другая справа – за ўхіленне ад сплаты падаткаў у асабліва буйных памерах. «Генеральная пракуратура ўзбудзіла сёння крымінальную справу ў дачыненні Юліі Цімашэнкі за падробку дакументаў і кантрабанду ў 1996 годзе расійскага прыроднага газу ў памеры каля 3 мільярдаў кубаметраў на суму 445 мільёнаў грыўняў (па сённяшнім курсе – прыкладна 80 мільёнаў долараў. – І.С.) праз мытную мяжу Украіны ў складзе арганізаванай групы шляхам выкарыстання фіктыўных дакументаў», — заявіў М.Абыход. Ён удакладніў, што гэта толькі адзін з эпізодаў «газавай справы».

Па дадзеных следства, карпарацыя «АЭСУ» незаконна афармляла праз мытню імпарт прыроднага газу нібыта як пастаўкі ад брытанскай фірмы *United Energy Ltd.*, і гэта дазволіла ёй пералічваць вялізныя сумы за мяжу ў якасці аплаты за газ. Следства сцвярджае, што такім чынам сродкі проста выводзіліся за тэрыторыю Украіны.

Што датычыць ухілення ад сплаты падаткаў, то з Ю.Цімашэнкі пракуратура хоча спагнаць на карысць дзяржавы каля 149 тысяч долараў – плюс штрафы і пеня. Віцэ-прэм'ер абвінавачваецца ў тым, што разам з сваім мужам Аляксандрам Цімашэнкам стварыла на Кіпры кампанію *Somoli Enterprises Ltd* і атрымала ад яе прыбытак у памеры каля 1 мільёна долараў. Гэтыя сродкі, па словах М.Абыхода, пералічваліся ў маскоўскі «Инкомбанк». Пры гэтым, на той момант Юлія Цімашэнка ўжо з'яўлялася народным дэпутатам Украіны, і гэтыя свой прыбытак не задэкларавала.


Фота В.Арцюшэнка, IREX/ProMedia, Кіеў/архіў

Дарэчы, муж Ю.Цімашэнкі з лета мінулага года знаходзіцца за кратамі. Да свайго зняволення Аляксандр Цімашэнка займаў пасаду прэзідэнта «Адзіных энергетычных сістэмаў Украіны». Супругаў Цімашэнкаў таксама абвінавачваюць у цесных сувязях з былым прэм'ер-міністрам Украіны і мульцімільянерам Паўлам Лазарэнкам, які цяпер чакае суда ў ЗША за шматлікія эканамічныя злачынствы, у прыватнасці, карупцыю і хабарніцтва.

Юлія Цімашэнка, у сваю чаргу, адмаўляе свой удзел у злачынствах і заяўляе, што справу супраць яе сфабрыкавалі ўкраінскія алігархі – каб дыскрэдытаваць яе як члена ўрада. «Усе абвінавачванні – гэта замова алігархаў, што цесна звязаны з крымінальнымі коламі, якія ўплываюць на палітычнае кіраванне ў краіне», — заявіла яна.

На думку віцэ-прэм'ера, асноўная прычына, чаму яе хочуць засадзіць за краты, — гэта яе дзейнасць на пасадзе ва ўрадзе, скіраваная на правядзенне радыкальных рэформаў у паліўна-энергетычным комплексе.

Па словах Юліі Цімашэнкі, яна не збіраецца сыходзіць у адстаўку і будзе працаваць ва ўрадзе, пакуль хопіць сілаў. Яна таксама падкрэсліла, што не будзе хавацца за мяжой.

Тым часам, украінскія журналісты ўжо смакуюць магчымыя наступствы ўзбуджэння крымінальнай справы супраць віцэ-прэм'ера. Напрыклад, як яна дасць падпіску аб нявыездзе і будзе штодня адзначацца ў міліцыі па месцы жыхарства. Або як яна будзе пад канвоем ездзіць на паседжанні ўрада. ■

# Кангрэс сказаў: «Буш»

Расціслаў ПЕРМЯКОЎ

Амерыканскі парламент на сваім сумесным паседжанні ў мінулую суботу афіцыйна прызнаў Джорджа Буша-малодшага 47-м прэзідэнтам ЗША. Пра гэта паведаміла агенцтва *Associated Press*.

Асаблівую пікантнасць цырымоніі зацвярджэння новага прэзідэнта надаў той факт, што кіраваў ёй былы супернік Дж.Буша, віцэ-прэзідэнт і старшыня сената Альберт Гор. Ён у алфавітным парадку адкрываў канверты і зачытваў для парламентарыяў вынікі галасавання выбаршчыкаў, што адбылося 18 снежня 2000 года. Тады, як вядома, з 538 амерыканскіх выбаршчыкаў за Дж.Буша прагаласавала мінімальная большасць – 271 чалавек.

Інаўгурацыя прэзідэнта Джорджа Буша і віцэ-прэзідэнта Рычарда Чэйні адбудзецца праз 10 дзён, 20 студзеня ў Вашынгтоне на прыступках Капітолія. ■

# Гаспадары жывёлы перакрываюць дарогі

Міхась КАРПОВІЧ

У Францыі ў мінулы панядзелак прайшлі масавыя акцыі пратэсту жывёлапрамыслоўцаў, паведамляе *Agence France Presse*. Супрацоўнікі кампаніяў, што гандлююць буйной рагатай жывёлай, блакавалі галоўныя аўтамагістралі на пад'ездзе да Парыжа. Да іх далучыліся «партнёры па бізнесе» – супрацоўнікі бойняў. Па звестках паліцыі, грузавікі, у якіх перавозяць жывёлу, перакрылі аўтамагістралі А1 і А13, што звязваюць сталіцу Францыі з паўночнымі і паўночна-заходнімі рэгіёнамі. Заторы на дарогах дасягаюць 150 кіламетраў.

Удзельнікі акцыі патрабавалі ад урада Францыі кампенсацыі стратаў, якія былі нанесеныя мясной прамысловасці краіны вірусам «каровінага шаленства». Ледзь не штодня становіцца вядома, што яшчэ адна краіна забараніла імпарт мяса з Еўропы.

Новыя аналізы, правядзенне якіх абавязковае для ўсіх кароваў Францыі, будуць каштаваць жывёлапрамыслоўцам па 400 франкаў (амаль 60 долараў) за кожную жывёлу.

Аналагічныя акцыі адбыліся таксама ў іншых буйных гарадах Францыі – Бардо, Рэнэ і Ліёне. ■

# Вязніца для Слоба

Міхась КАРПОВІЧ

Афіцыйныя асобы ва ўрадзе Сербіі паведамілі карэспандэнту *Newsweek*, што ў бліжэйшы час былы прэзідэнт Югаславіі Слабадан Мілошавіч будзе арыштаваны.

Нават пасля паразы на вераснёўскіх выбарах Слабадан Мілошавіч не губляе аптымізму – і волі. Ён жыве разам з сваёй жонкай Мір'янай Мркавіч на шыкоўнай віле ў прыгарадзе Бялграда пад аховай адданых яму супрацоўнікаў сербскіх спецслужбаў. Не так даўно ён нават паабяцаў вярнуцца ў палітыку.



Аднак пасля гучнай перамогі дэмакратычнай апазіцыі Сербіі на парламенцкіх выбарах усё можа змяніцца. Уж цяпер лідэры дэмакратычнай апазіцыі кажуць, што прагульвацца на волі С.Мілошавічу засталося нядоўга – на працягу двух месяцаў ён можа быць арыштаваны і змешчаны за краты.

У чым жа ён абвінавачваецца? Міжнародны трыбунал па ваенных злачынствах у былой Югаславіі лічыць яго вінаватым у злачынствах супраць чалавецтва падчас вайны ў Косаве. Трыбунал патрабуе ад Югаславіі, каб тая выдала яму С.Мілошавіча як ваеннага злачынца. Аднак шмат хто ў Югаславіі, у тым ліку і прэзідэнт Ваіслаў Каштуніца, выступае супраць экстрадыцыі С.Мілошавіча. Тым не менш, выказваецца гатоўнасць судзіць былога прэзідэнта непасрэдна на тэрыторыі Югаславіі. Прапануецца таксама кампраміс: паседжанні міжнароднага трыбунала пераносяцца ў Югаславію.

Па словах Уладана Баціча, які, як чакаецца, стане новым міністрам юстыцыі, Югаславія гатовая судзіць С.Мілошавіча за «распальванне нацыянальнай, расавай і рэлігійнай варожасці, нецярпімасць, перавышэнне службовых паўнамоцтваў... парушэнне правоў грамадзянаў і распаўсюджванне лжывай інфармацыі». Ён таксама выказаў шкадаванне, што, паводле югаслаўскай канстытуцыі, Слабадана Мілошавіча нельга судзіць за карупцыю і крадзяжы ў асабліва буйных памерах.

З прыходам новых людзей у пракуратуру Сербіі знаходзяцца сляды іншых злачынстваў, да якіх мае дачыненне С.Мілошавіч. У прыватнасці, замоўнае забойства ў красавіку 1999 года журналіста Слаўкі Чурувія.

У віну былому дыктатару могуць паставіць і эканамічныя злачынствы. У 1999 годзе па ягоным загадзе былі сфабрыкаваныя паперы, на падставе якіх сям'я С.Мілошавіча атрымала ва ўласнасць маёмасць на самай дарагой вуліцы Бялграда. ■

# Затрымалі забойцу кампазітара?

Ірына СТАРЦАВА

Як паведамілі праваахоўныя органы Украіны, 6 студзеня ў Сімферопалі быў затрыманы Юрый Калінін – чалавек, які абвінавачваецца ў забойстве народнага артыста Украіны, вядомага кампазітара Ігара Білазіра.

Мы ўжо пісалі пра гэты выпадак летась, але нагадаем: у ноч на 9 траўня Ігар Білазір быў жорстка збіты некалькімі асобамі ў кавярні ў цэнтры Львова. Падставай для бойкі стаў канфлікт паміж дзвюма кампаніямі, што сядзелі ў кавярні. Маладым хлопцам не спадабалася тое, што І.Білазір з кампаніяй спяваў украінскія песні і замінаў ім слухаць рускі блатны «шансон». Яны сталі правакаваць канфлікт. Бойка не пачалася адразу, бо ў кавярню зайшоў міліцэйскі патруль. Аднак на шляху дахаты Ігара Білазіра дагналі і збілі металёвым прутам. З цяжкімі траўмамі галавы кампазітар трапіў у шпіталь у каматозным стане. Медыкі тры тыдні змагаліся за ягонае жыццё, але так і не змаглі яго выратаваць.

Супрацоўнікі праваахоўных органаў затрымалі двух 28-гадовых мужчынаў, якім было прад'яўленае абвінавачванне ў забойстве кампазітара. Гэта былі прадпрымальнік Юрый Калінін і супрацоўнік вайсковай контрразведкі пры штабе Заходняга аператыўнага камандавання Дзмітрый Воранаў.


● Пахаванне І.Білазіра

Абодвух праз некалькі дзён адпусцілі пад падпіску аб нявыездзе, і гэта дазволіла Ю.Калініну ўцячы. Д.Воранава тады зноў пасадзілі за краты. Цяпер там апынуўся і ягоны саўдзельнік.

Заўтра ў горадзе Рагацін Івана-Франкоўскай вобласці мусіць пачацца першае судовае паседжанне па справе аб забойстве Ігара Білазіра. Крымінальная справа налічвае 7 тамоў. Д.Воранава і Ю.Калініна абвінавачваюць у нанясенні цяжкіх цялесных пашкоджанняў І.Білазіру, у выніку якіх наступіла смерць.

Забойства кампазітара выклікала вялікі рэзананс ва ўкраінскім грамадстве. Па гарачых слядах, у прыватнасці, ва ўсіх грамадскіх месцах Львова было забаронена транслявацьпесні на рускай мове. ■

# Целы ахвяраў скідвалі ў мора

Ірына СТАРЦАВА

Прэзідэнт Чылі Рыкарда Лагас днямі абнародаваў вынікі працы камісіі па правах чалавека, якая мусіла высветліць лёс целаў больш за тысячу чалавек, што былі забітыя за 17 гадоў рэжыму Аўгуста Піначэта, калі краінай кіравалі генералы.

У сваім звароце да нацыі Р.Лагас паведаміў, што камісіі ўдалося высветліць лёс 180 загінулых. Трупы 130 з іх былі скінутыя ў мора, азёры і рэкі, і ўжо ніколі не будуць знойдзеныя. Яшчэ каля 20 целаў знаходзяцца ў брацкай магіле недзе ў сталіцы Чылі – Сант'яга.

Прэзідэнт назваў гэтую інфармацыю трагічнай. Ён прызнаў, што дагэтуль зроблена недастаткова: лёс сотняў чалавек застаецца нявызначаным. Шматлікія нашчадкі рэпрэсаваных асобаў расчараваныя вынікамі працы камісіі.

У сваёй прамове Р.Лагас, аднак, старанна пазбягаў згадвання імя Аўгуста Піначэта. На працягу ўсёй эпапеі па спробах судовага пераследу былога дыктатара ён заўсёды адмаўляўся выказвацца на карысць або супраць А.Піначэта – толькі сцвярджаў, што гэтай справай мусяць займацца судовыя інстанцыі.

Цяпер уся ўвага чылійцаў прыцягнутая да суда над А.Піначэтам. Учора генерал мусіў з'явіцца на допыт да суддзі Хуана Гусмана, але ў апошні момант суддзя перанёс допыт на наступны панядзелак. Невядома, чаму Х.Гусман пайшоў на такую адтэрміноўку. Але вельмі верагодна было, што генерал на допыт не з'явіцца. У такім выпадку суддзя мусіў арыштаваць былога дыктатара, а гэта нарадзіла б новую хвалю супрацьстаяння паміж прыхільнікамі і ворагамі А.Піначэта. ■

# Літва спрашчае правілы ўезду

Расціслаў ПЕРМЯКОЎ

З 6 студзеня Літва спрасціла правілы ўезду на сваю тэрыторыю для грамадзянаў Беларусі і іншых суседніх з ёй краінаў. Цяпер для атрымання візы не абавязкова мець запрашэнне з літоўскага боку. Дастаткова даказаць, што ў цябе ёсць сродкі на пражыванне там – 40 долараў на дзень. Віза выдаецца на тэрмін да 30 дзён.

У якасці доказу фінансавай забяспечанасці неабходна прад'явіць супрацоўнікам амбасады гэтак званы «дарожны чэк», які можна набыць у многіх беларускіх банках. Гэты чэк мае намінал у доларах ЗША і абменьваецца ў любым банку Літвы на наяўныя грошы.

Спрошчаныя таксама правілы ўезду ў Літву для тых, хто едзе туды па справах. Цяпер дастатковай падставай для атрымання візы ёсць запрашэнне ад літоўскай фірмы, дасланае па факсе. Раней было неабходна зацвярджаць запрашэнне ў міграцыйнай службе.

Нагадаем, што гэта ўжо не першы крок, які робіць Літва на шляху да спрашчэння яе наведвання. У снежні мінулага года літоўскія візы ўжо значна патаннелі – напрыклад, кошт звычайнай візы для аднаразовага падарожжа зменшыўся з 20 да 10 долараў.

Афіцыйныя ўлады Літвы тлумачаць апошнія захады неабходнасцю істотнага павелічэння турыстычнага патоку на тэрыторыю краіны. Літва хоча зарабіць больш на турыстах, і для гэтага робіцца ўсё магчымае. ■

# Новы кіраўнік тэлебачання застаецца

Міхась ПУРЫШКЕВІЧ

Кіраўнік чэшскага тэлебачання Іржы Ходач застанецца на сваёй пасадзе яшчэ на некалькі месяцаў. Такі вынік паседжання Чэшскага савета па тэлебачанні і радыёвяшчанні, на якім не было прынятае рашэнне аб адстаўцы генеральнага дырэктара ЧТ.

Як паведаміла *Agence France Presse*, старшыня савета Міраслаў Мараш заявіў, што ў адсутнасць самага «героя» апошніх гарачых падзеяў у Чэхіі абмяркоўваць пытанне аб ягонай адстаўцы было б неэтычна.

Сам Іржы Ходач шпіталізаваны па прычыне сардэчнага прыступу ў мінулы чацвер, у панядзелак ужо выйшаў з шпіталя, але на паседжанні савета не з'явіўся. Тым не менш, стала вядома, што падаваць у адстаўку сам ён не збіраецца. Не паўплывала на яго нават рэзалюцыя парламента з заклікам пакінуць спрэчную пасаду.



Як вядома, з канца мінулага года доўжыцца супрацьстаянне паміж І.Ходачам і супрацоўнікамі Чэшскага тэлебачання. І.Ходача абвінавачваюць у палітычнай ангажаванасці Грамадзянскай дэмакратычнай партыяй. Журналісты ЧТ адмовіліся працаваць пад ягоным кіраўніцтвам і былі за гэта звольненыя з працы, але не пагадзіліся са звальненнем, занялі адну з студыяў Пражскага тэлецэнтра і вядуць адтуль свае перадачы праз спадарожнік, не выходзячы з памяшкання.

Усё больш грамадскіх дзеячаў Чэхіі далучаюцца да пратэсту журналістаў. Услед за прэзідэнтам Чэхіі Вацлавам Гавелам і міністрам культуры Паўлам Досталам далучыўся міністр замежных справаў Ян Каван. Яны ўсе заклікаюць Іржы Ходача пайсці. Чэхі сабралі ўжо больш за 175 тысяч подпісаў за адстаўку новага генеральнага дырэктара тэлебачання.

Цяпер у парламенце Чэхіі абмяркоўваецца закон, які мусіць паменшыць палітычную ангажаванасць новага савета па тэлебачанні і радыёвяшчанні, змяніўшы прынцыпы абрання ягоных чальцоў і павялічыўшы іх колькасць з 9 да 15. Паводле новага праекта, кандыдатуры чальцоў будуць прапаноўваць не палітычныя партыі, як цяпер, а грамадскія арганізацыі.

У бліжэйшую пятніцу мусіць адбыцца галасаванне па праекце. Калі ён будзе прыняты, то гэта аўтаматычна перапыніць паўнамоцтвы цяперашняга савета па тэлебачанні і радыёвяшчанні. І толькі новы савет зможа адхіліць І.Ходача ад пасады. А да гэтага часу, бліжэйшыя некалькі месяцаў ён будзе працягваць кіраваць тэлебачаннем. Калі толькі не зменіць свайго рашэння застацца.

Тым часам, новая дэманстрацыя супраць І.Ходача прызначаная на заўтра. ■

# Латвійскія вайскоўцы захварэлі

Міхась КАРПОВІЧ

Масавае захворванне на дызентэрыю насцігла адзін з палкоў латвійскай арміі. Больш за 100 вайскоўцаў з аховы МУС у Елгаве ўжо трапілі ў шпіталь, паведаміла радыёстанцыя «Эхо Москвы».

Медыкі не выключаюць, што прычынай эпідэміі сталі няякасная вада і харчаванне. Гэта ўжо трэці выпадак масавага захворвання ў латвійскай арміі і паліцыі за апошнія паўгода. ■

# «Сила без высокомерия»

© Кондолиза Райс,
советник по национальной безопасности президента Джорджа У.Буша

**Соединенные Штаты выяснили, что теперь, когда им больше не противостоит мощь Советского Союза, становится все труднее давать определение своим «национальным интересам».**

Тот факт, что мы не знаем, как определять обстановку, сложившуюся после периода американо-советской конфронтации, становится очевидным из постоянных ссылок на «период, начавшийся после холодной войны». С другой стороны, подобные переходные периоды очень важны, так как они открывают возможности стратегического характера. В условиях быстро меняющейся обстановки можно влиять на то, каким станет мир завтра. Огромное значение текущего момента очевидно.

Советский Союз был для нас не просто традиционным глобальным соперником. Он пытался навязать всеобщую социалистическую альтернативу рынкам и демократии. Советский Союз установил своеобразный карантин для себя и многих своих, часто ни о чем не подозревавших, невольников и клиентов, в качестве заслона от жестких реалий международного капитализма. В конечном же итоге, он сам и посеял семена своего разрушения, поскольку такая изоляция превратила его в обреченного на вымирание экономического и технологического динозавра.

Америка внесла самый большой вклад в эти революционные преобразования и одновременно извлекла из них самую большую пользу. Американские ценности носят универсальный характер. Их триумфальное шествие, конечно же, становится легче, когда международный баланс сил складывается в пользу тех, кто верит в эти ценности. Но иногда требуется определенное время для того, чтобы такой благоприятный баланс сил сложился на международной арене и внутри отдельно взятой страны, а пока идет этот процесс, мы просто не можем игнорировать и изолировать другие государства, обладающие военно-политической мощью.

Хороший пример в этом смысле представила собой холодная война. Найдется немного людей, которые будут отрицать, что крушение Советского Союза коренным образом изменило положение с демократией и правами человека в странах Восточной и Центральной Европы и в бывших советских республиках. Ничто не способствовало так улучшению положения с правами человека, как развал советской мощи.

На протяжении всего периода холодной войны США проводили политику в поддержку политических свобод, используя для этого все имевшиеся у них инструменты, начиная с «Голоса Америки» и кончая прямым заступничеством президента за диссидентов. Между тем, США никогда не упускали из виду ни важное значение геополитических взаимоотношений с Москвой, ни абсолютную необходимость сохранения внушительной американской мощи с целью предотвращения тотальной военной конфронтации.

Вызов, брошенный президентом Рейганом советской мощи в 80-е годы, носил решительный и вполне своевременный характер. Речь шла в том числе и об интенсивных, содержательных контактах с Москвой по всему спектру проблем, включенных в ставшую с тех пор классической «четырехуровневую повестку дня»: контроль над вооружениями, права человека, экономические проблемы и региональные конфликты.

Администрация Буша стала уделять больше внимания задаче вытеснения советской мощи из стран Центральной и Восточной Европы. Советский Союз больше не мог защищать свои интересы и пошел на мирную сдачу своих позиций Западу, что стало огромной победой и с точки зрения возобладания силы Запада, и с точки зрения торжества человеческой свободы.

И хотя Соединенным Штатам повезло в том, что среди их друзей есть несколько великих держав, нельзя принимать такое положение как нечто само собой разумеющееся – с тем, чтобы когда настанет время полагаться на их поддержку, у нас была надежная опора.

Сегодня Россия представляет для нас вызов совершенно другого рода. Конечно, она сохранила многие атрибуты великой державы: большое население, обширную территорию и военный потенциал. Однако ее экономическая слабость и проблемы национальной идентичности могут погубить ее.

Москва стремится утвердить себя на международной арене и зачастую предпринимает беспорядочные усилия, которые создают угрозу американским интересам. Картина происходящего осложняется еще и тем переходным процессом, который идет внутри самой России и в успехе которого заинтересованы Соединенные Штаты.



Старая советская система разрушилась, и на ее месте возникли некоторые базовые элементы демократического развития. Люди могут свободно говорить то, что они думают, голосовать за кого хотят и (в большинстве случаев) свободно исповедовать религию по своему выбору. Между тем, разрозненные элементы демократии не поставлены на институциональную основу, а политические партии – за исключением коммунистической – слабы.

Экономические беды России и коррупция в высших эшелонах государственной власти являются предметом широкого обсуждения. В результате разного рода мутаций российская экономика превращается не в рыночную экономику, а во что-то совсем другое. Широко распространенный бартер; банки, которые на самом деле не являются банками; миллиарды рублей, вывозимые за границу и хранимые под матрацами; странные схемы приватизации, обогатившие так называемых реформаторов – все это придает царящей в России атмосфере некий привкус средневековья.

Проблемой политики США стало то, что поддержка, которую администрация Клинтона на постоянной основе оказывала Ельцину и тем людям в его окружении, кого считали реформаторами, просто не дала никаких результатов. Конечно, Соединенным Штатам приходилось иметь дело с главой российского государства, а им был президент Ельцин.

Та поддержка, которую США оказывали России в области демократии и экономических реформ, вылилась в поддержку Ельцина. Его программа стала американской программой.

Америка принимала то, что происходило в России, за реформы и продолжала направлять туда деньги Международного валютного фонда при отсутствии каких-либо подтверждений серьезных перемен.

Так, некоторые курьезные методы приватизации приветствовались как экономическая либерализация; разграбление национального богатства страны обладающими властью людьми оставалось незамеченным или игнорировалось. Существующие в России реалии просто не совпадали с имевшимся у администрации США сценарием российских экономических реформ.

Соединенные Штаты не следует винить в том, что они пытались помочь России. Но, как сказал один из российских реформаторов, Григорий Явлинский, Соединенные Штаты должны были «сказать правду» о том, что происходило на самом деле. И вот теперь мы получили двойную проблему отсутствия доверия – и со стороны россиян, и со стороны американцев.

Ни в Америке, ни в Европе больше нет согласия по поводу того, что дальше делать с Россией. Несбывшиеся ожидания и «усталость от России» – вот прямые последствия того «счастливого воркованья», которым занималась с ней администрация Клинтона.

Сегодня экономическое будущее России находится в руках самих россиян. В стране есть и ресурсы, в том числе природные богатства, и образованное население. Россия сама должна провести структурные реформы, особенно те, которые касаются власти закона и налоговых правил, с тем, чтобы инвесторы – иностранные и отечественные – предоставили капитал, необходимый для экономического роста.

На преобразования культурного характера, которые в конечном итоге необходимы для формирования устойчивого гражданского общества и функционирующей рыночной экономики, может уйти жизнь целого поколения. Открытость Запада для россиян, особенно для российской молодежи, в рамках программ обменов, а также контакты с частным сектором и возможности в сфере образования могут способствовать этому процессу. Важны и контакты с руководством многочисленных регионов России, экономическая и социальная политика в которых становится все более независимой от Москвы.

А пока идут все эти процессы, политика США в отношении России должна быть сконцентрирована на вопросах безопасности, которые имеют важнейшее значение.

Во-первых, мы должны признать, что сила России представляет собой меньшую угрозу для безопасности Америки, чем ее слабость и непоследовательность. А это предполагает самое пристальное внимание к надежности и безопасности имеющихся у Москвы ядерных сил и арсеналов.

Во-вторых, Вашингтон должен начать с Москвой широкие переговоры по поводу меняющегося характера ядерной угрозы. Руководство вооруженных сил России делает многое для того, чтобы перенести центр тяжести на ядерное оружие – на фоне слабеющего потенциала обычных вооружений.

Россия располагает более чем адекватными средствами сдерживания ядерного потенциала США и наоборот. Между тем, уже нет необходимости фиксировать этот факт в договоре, который был заключен почти 30 лет тому назад и представляет собой реликт времен глубокого противостояния между Соединенными Штатами и Советским Союзом.

Договор о противоракетной обороне был направлен на предотвращение создания систем национальной противоракетной обороны в той обстановке, которая характеризовала состояние безопасности в годы холодной войны. Сегодня же главный предмет беспокойства составляют угрозы со стороны разного рода ираков и северных корей, равно как и вероятность несанкционированного применения ядерного оружия – учитывая его распространение.

На самом деле Москва находится ближе к этим угрозам, чем Вашингтон. Следует найти возможность для обсуждения с Россией тех изменений, которые произошли в характере угроз, ее возможной реакции на это, а также зависимости между сокращениями стратегических наступательных вооружений и развертыванием противоракетной обороны.

Наряду с этим, Москва должна понять, что любые возможности совместного использования информации или технологий в этих областях будут в значительной степени определяться ее поведением – которое на сегодняшний день является проблематичным – в вопросах распространения баллистических ракет и других технологий, связанных с оружием массового уничтожения.

Было бы совсем глупо делиться с Москвой оборонными технологиями, если она будет допускать утечки или умышленно осуществлять передачу военных технологий тем самым государствам, от угрозы со стороны которых Америка и пытается себя защитить.

Находясь на посту премьер-министра, Владимир Путин использовал Чечню как для возбуждения национализма в своей стране, так и для наращивания своего собственного политического капитала. Российские военные проявили нехарактерную для них решительность и активность, заявив, что считают своим долгом защитить целостность Российской Федерации – неблагоприятное развитие событий с точки зрения взаимодействия армии с гражданским обществом.

Не следует недооценивать долговременные последствия этой войны для политической культуры в России. Эта война повлияла на отношения между Россией и ее соседями на Кавказе, по мере того как Кремль бросал обвинения в укрывательстве и поддержке чеченских террористов в адрес самых разных стран, таких как Саудовская Аравия, Грузия и Азербайджан.

Эта война служит напоминанием об уязвимости небольших новых государств, которые расположены вокруг России, и о заинтересованности Америки в их независимости. Став сильнее, они перестанут быть предметом такого сильного искушения для России. Между тем, многое зависит от способности этих государств реформировать свою экономику и политические системы – а на сегодняшний день достижения на этом пути носят, в лучшем случае, неоднозначный характер.

На этом фоне Америка может употреблять свою силу без высокомерия и утверждать свои интересы, не прибегая к устрашению и угрозам. Такой была особая роль Америки в прошлом и такой она должна быть вновь теперь, когда мы вступаем в новое столетие. ■

**«Чикаго трибюн», 31 декабря 2000 г.**
**Офис международных информационных программ Государственного департамента США**

**Рэдакцыя прапануе сваім падпісчыкам аплаціць падпіску праз аддзяленні ААБ «Беларусбанка».**

**Для аплаты падпіскі адпаведную квітанцыю (гл. ніжэй) трэба выразаць нажніцамі. Адзначце ў квітанцыі тэрмін, на які афармляеце падпіску, прозвішча падпісчыка і паштовы адрас, на які дастаўляюць газету.**

**Кошт падпіскі на адзін месяц 1040 руб. Калі вы жадаеце падпісацца на больш тэрмін, то павялічце суму ў адпаведную колькасць разоў.**

## КВІТАНЦЫЯ ДЛЯ «БЕЛАРУСБАНКА»

Форма № ПД-5

**ИЗВЕЩЕНИЕ**

УНН 101562750 Редакция газеты «Наша СВАБОДА»
получатель платежа
Отделение «Центральное» ОАО «Белбизнесбанк»
г.Минск, код 493; Минск, пл.Свободы, 17
наименование банка

Счет получателя 3012205160015 Лицевой счет

(фамилия,имя,отчество)

(индекс) (адрес)

На 2001 год по месяцам:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

За подписку на газету «Наша СВАБОДА» — Сумма

Пеня

Плательщик Всего

Кассир

УНН 101562750 Редакция газеты «Наша СВАБОДА»
получатель платежа
Отделение «Центральное» ОАО «Белбизнесбанк»
г.Минск, код 493; Минск, пл.Свободы, 17
наименование банка

Счет получателя 3012205160015 Лицевой счет

(фамилия,имя,отчество, адрес)

На 2001 год по месяцам:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

**КВИТАНЦИЯ**

За подписку на газету «Наша СВАБОДА» — Сумма

Кассир

Пеня

Плательщик Всего

ЭКСПРЭС

# Прогнозы, долги, расчеты

Андрей КАРПОВИЧ

### Нацбанк утвердил Правила обеспечения выполнения обязательств по возврату физическим лицам средств в иностранной валюте в уполномоченных банках

Как сообщили в управлении информации Национального банка РБ, на очередном заседании правления Национального банка Республики Беларусь утверждены Правила обеспечения выполнения обязательств по возврату физическим лицам средств в иностранной валюте в уполномоченных банках. Они разработаны в соответствии с декретом президента Республики Беларусь от 20 апреля 1998 года №4 «О гарантиях сохранности средств физических лиц в иностранной валюте, находящихся на счетах и во вкладах в банках Республики Беларусь». Этими правилами, которые вступят в силу с 1 февраля 2001 года, предусматривается полная сохранность уполномоченными банками средств населения и выполнение своих обязательств по их возврату по первому требованию вкладчиков в полном объеме с учетом начисленных по ним процентов в валюте счета (вклада). Документом определены источники, за счет которых обеспечивается выполнение обязательств банков по возврату сбережений.

### Среди стран СНГ самый высокий уровень инфляции в 2000 году зафиксирован в Беларуси

По сообщению информационных российских агентств, цены в нашей стране на протяжении года выросли почти вдвое. Но это в среднем. Платные услуги населению, например, стали дороже в три раза. Высокой была инфляция также на Украине и в Таджикистане, но с Беларусью эти показатели все равно не сравнимы.

### Российское правительство продлило соглашение о частичной оплате белорусской задолженности за газ поставками продовольствия и техникой

Выделив в конце декабря Беларуси кредит в 30 миллионов долларов, правительство России 30 декабря сделало Лукашенко еще один подарок — премьер Касьянов продлил соглашение о частичной оплате задолженности за газ поставками продовольствия и материально-технических ресурсов.

Условия действия соглашения продлеваются сроком на 2000-2001 годы путем обмена письмами. Министерство сельского хозяйства и «Росагроснаб» должны будут согласовать с белорусской стороной перечень поставляемой техники на сумму 1,5 млрд. руб., сообщает департамент правительственной информации России.

### Евро растет как на дрожжах

На сегодняшних валютных торгах в Азии, курс евро к доллару составил 95,15 цента за евро. Вчерашнее закрытие валютных торгов в Нью-Йорке также вывело евро на новый ценовой уровень в 95,17 цента. Это самый высокий курс европейской валюты по отношению к доллару США за последние полгода. Причиной новогоднего роста стало обнародование очередного экономического доклада, который показал сокращение промышленного производства в США, сообщает агентство *Bloomberg*.

Эксперты ожидают дальнейшего падения курса доллара по отношению к евро по мере того, как замедление темпов экономического роста в США подтолкнет инвесторов к тому, чтобы инвестировать в активы, номинированные в евро.

### Сорос предсказывает новый экономический кризис

Экономика США вступила в фазу резкого снижения темпов своего роста, что создает реальную угрозу нового мирового финансового кризиса. Об этом заявил известный финансист Джордж Сорос, который после почти двухлетнего перерыва вновь вернулся к активной инвестиционной деятельности. США находится в классическом цикле замедления деловой активности, однако «посадка будет жесткой», считает Сорос. Он также высказал скептицизм относительно способности властей США избежать острого экономического кризиса. По мнению Сороса, трудности в американской экономике создадут напряжение в мировой финансовой системе и в первую очередь в странах Юго-Восточной Азии, которые еще не полностью восстановились после кризиса 1998 года. В этой связи он призвал международные финансовые организации создать условия для притока инвестиций в развивающиеся страны. ■

# Невыкараняльны занятак

Міхал ЗАЛЕСКІ

**Фараоны пільна сачылі за шчыльнасцю межаў. Адпаведныя храмавыя службы ведалі пра кожнага, хто плюнуў у бок пірамiды. А кантрабандны бурштын на мемфіскім гарадскім рабаўладальніцкім рынку не пераводзіўся. Прычына была простая — гандляры. Гэта яны цягнулі сонечны камень праз усю непралазную ад лясоў, балотаў і нашых продкаў Еўропу.**


Фота IREX/ProMedia

Фараоны павымiралі, лясы павысякалі, а гандляры засталіся. Засталіся нават насуперак кампартыйнай праграме па іхным поўным вынішчэнні. Плакалі нязломныя бальшавікі, называлі рынкі калгаснымі і пасылалі сваіх жонак і сакратарак па сапраўдны тавар у «Бярозку». Так і скончыўся камунізм.

Фараоны, памершы, выпраменьваюць магутную эманацыю ўлады. Яе прамяні сышліся на нашай зямлі. Рана радуюцца купцы, негацыянты, прадпрымальнікі і іншыя вашывыя блохі. А можа і нездарма яны радуюцца?

Каб разабрацца — зірнем на лічбы. За перыяд незалежнасці прыватызавана 3.876 прадпрыемстваў. Але гэта дробязь у нашай дзяржаве. Гандаль і гэтак званае грамадскае харчаванне прыватызаваныя на трацiну, сельская гаспадарка — на сёмую частку, а ў астатніх галінах поспехі і таго меней. Рабілася гэтая прыватызацыя на савецкі капыл, фармальна і бязглузда, таму ніякага ўплыву на грамадства асабліва не зрабіла. Так, шыльды дзе-нідзе памянялі.

Але нават пасля шматгадовай прамыўкі мазгоў 56% апытаных праз НІСПД (Незалежны інстытут сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў) лічаць, што прага зыску не пакінула сэрцы нашых суайчыннікаў, і мае рацыю. Бо пра свае прадпрымальніцкія спробы, прыгоды і поспехі паведаміла сацыёлагам амаль чвэрць апытаных, а гэта паўтара мільёна дарослых грамадзянаў (бо менавіта дарослых апытвалі).

На шляху за асабістым багаццем расчараванне тым часам спасцігла за апошнія дзесяць гадоў, паводле нашых разлікаў, амаль 600 тысяч чалавек.

Гэткім чынам выяўляецца, што да прадпрымальнікаў прылічвае сябе не менш за 900 тысяч грамадзянаў нашай краіны. Тым часам у падатковых інспекцыях зарэгістравана ледзь не ў дзесяць разоў меней суб'ектаў гэткага кшталту.

Адсюль вынікаюць дзве рэчы. Па-першае, за дзесяць гадоў зрабіў сваю карысную справу натуральны адбор. У сярэднім штогод на 150 тысячаў прыбылых адсейвалася 60 тысяч слабых і няздольных бізнесоўцаў. Утварылася як мінімум паўмільённая грамада беларусаў, здольных паспяхова выжываць ва ўмовах нашага спецыфічнага ўмацавання дзяржаўнасці, не зважаючы на мітусню ора-ўмацавальнікаў. Гэта добра.

Але, па-другое, асноўная частка вышэйзгаданых незалежных грамадзянаў нашай незалежнай краіны ўмацоўвае ценевы бок эканомікі, каторую і без таго куроччыць ад рынкавых сацыялістаў.

Канешне, праз той цень трапляе ў кішэні беларусаў больш за чвэрць іхных прыбыткаў, і нават фараонскія забавы да торбы не даводзяць. Але аналіз статыстыкі апошніх гадоў сведчыць, што гэты сектар прыбыткаў у існуючых умовах ужо дасягнуў сваёй мяжы і больш не расце. Вынікі кан'юнктурных спажывецкіх апытанняў НДЭІ мінэканомікі выявілі, што прыбыткі ад усіх формаў прадпрымальніцтва не ўваходзяць яшчэ ў дзесятку асноўных крыніцаў існавання нацыі, а ёсць такімі менш чым дзеля 10% сем'яў. І толькі два з нечым адсоткі сем'яў жывуць ад прадпрымальніцкіх прыбыткаў як ад асноўных.

З другога боку, ценевы сектар беларускай эканомікі не такі страшны, як можна падумаць, бо складаюць яго пераважна не гандляры зброяй, гэтым паспяхова займаецца дзяржава, а вяскоўцы ды дробныя «чаўнакі». Аб'ём дасягаецца за кошт масавасці.

Насельніцтва купляе ў прыватнікаў больш за тры чвэрці, напрыклад: мёду, садавіны, сырадою, гароднiны, бульбы, салёных агуркоў, квашанай капусты і сала. Насельніцтва будуе, рамантуе, абганяе, жне і бярэ грошы адно ў аднаго і ніякім інспектарам пра тое таксама не паведамляе.

Вось праз гэтыя дзве рэчы і тлумачыцца сацыяльная ўстойлівасць у краі пры поўным захаванні калгаснага ладу і абыякавасці да еўрапейскай дэмакратыі. Тым больш, што асноўная маса прадпрымальных грамадзянаў зусім не паразіты, як той казаў, бо сярэдні памер падатку, каторы кожны з іх выплачвае, узрос за апошнія пяць гадоў больш як у дзесяць разоў.

А яны ніяк не зводзяцца. Во людзі... ■

# Отрава для униженных

## В конце 1998 года правительство Беларуси божилось, что круто сократит производство винных напитков, опасных для здоровья

Наталья РАДИНА,
Павел ЕРМОЛЮК

**Потребление спиртного в нашей стране растет, в 2000 году оно достигло 11 литров чистого алкоголя на душу населения (т. е. включая грудных младенцев).**



Фота Ул.ШЛАПАКА

В августе прошлого года правительство приняло Программу национальных действий по предупреждению и преодолению пьянства и алкоголизма, согласно которой борьба с пьянством определяется как «сокращение объемов производства крепких спиртных напитков с одновременным увеличением выпуска вин плодовых и напитков слабоалкогольных».

В этом есть прямая выгода. Бюджет страны требует «живых» денег, а в общей структуре розничного товарооборота деньги от продажи спиртных напитков превышают 15%. Завмаги гастрономов твердо знают: не завезут дешевое вино – выручки не жди. Ведь водка за год испытала более десяти подорожаний, и ее стоимость перевалила далеко за тысячу. Импортное вино обложено неподъемными пошлинами и потому очень дорогое, а отечественные «винные напитки» приманивают обнищавших людей своей фантастической дешевизной (цена одной бутылки «Налибокской пущи» или «Талисмана» лежит в пределах 500-700 рублей).

Лет 15 назад дешевое вино по цене от рубля до двух тоже было в изобилии, но оно, в отличие от нынешних «чернил», производилось из натурального сырья. Разнообразные портвейны завозились из Молдавии, вино «Агдам» — из Азербайджана, недорогие «Эрети», «Саперави» — из Грузии, не говоря уже о винах, которые импортировались из Болгарии, Венгрии и Румынии. Затем все это исчезло, и место натуральных вин заняли «напитки винные с использованием натурального сырья» или «вина плодовые особо крепкие», которые также натуральными быть никак не могут по той простой причине, что винные дрожжи гибнут при 17 алкогольных градусах.

Производство отечественных «чернил» освоили никому прежде неизвестные виноделы из д. Макаренцы Могилевского района, г.п.Вороново Гродненской области, д.Илово Мядельского района, д.Рованичи Червеньского района, совхоза «Рассвет» Минского района и множество иных народных умельцев. Не украшают репутацию минского завода «Кристалл» такие напиточки, как «Крыжачок», «Налибокская пуща», «Прамень» и «Вермут».

Белорусской изобретательности позавидовали бы многие винные заводы Франции, которые даже не подозревают, что белорусам для производства вина достаточно сброженно-спиртованного яблочного сока. А чтобы разнообразить вкус этого «аперитива», к нему добавляют ароматизирующие добавки с красивыми названиями «Ролл кола», «Мелисса лайм», «Херес» и т. д. В содержании спирта и сахара в «чернилах» тоже наблюдается определенная стабильность, которая определяет специфику продукта. «Вольтаж» – 18-20 градусов, сахар – 40-60 граммов на литр. Чем больше сахара, тем выше цена и тем хуже для печени.

Не каждый производитель напишет на этикетке правду о составе своего напитка. На днях Белорусское общество защиты потребителей провело независимое тестирование отечественных винных плодово-ягодных напитков. В результате экспертизы было выявлено, что «особо крепкий плодовый напиток» «Персей» не соответствовал заявленной маркировке по заниженному объему этилового спирта и концентрации сахара. В плодовом вине «Золотой венок» концентрация железа в полтора раза превышала допустимую норму. Вкусовые качества отечественных «чернил» довольно точно определили покупатели у винного отдела столичного гастронома «Могилевский», когда у них спросили, какое вино лучше – «Крыжачок», «Прамень» или «Налибокская пуща»? Ответ был один: «Вы в своем уме? Их же из одной бочки наливают!»

Государство поощряет выпуск «чернил», выдавая некоторым «сортам» награды. В прошлом году государственные дегустаторы наградили плодовые напитки золотыми, серебряными и бронзовыми медалями.

Наши медики сегодня считают, что потребление низкокачественных алкогольных напитков приводит к энцифалии. У человека, злоупотребляющего дешевыми винными напитками, повреждается ткань мозга, так как токсический эффект от таких вин гораздо сильнее, чем, к примеру, от водки. Реаниматологи говорят, что раньше таких слабоумных, как сейчас, не было. Государство же вместо того, чтобы запретить выпуск этой отравы, борется с пьянством путем увеличения его производства и пишет «программы национальных действий», в которые не вкладывает реальных денег. Реально государство вкладывает деньги в производство спиртных напитков, а денег на профилактику пьянства практически не выделяет. ■

ТЭНДЭНЦЫІ

# Расійскі капітал займеў кантрольны пакет акцыяў «Брэстбытхіма»

Валянціна КАЗЛОВІЧ

На рэспубліканскім конкурсе «Лепшая прадукцыя-2000», які праходзіў напярэдадні новага года пад патранажам Беларускага таварыства абароны спажыўцоў, шэсць відаў прадукцыі ААТ «Брэстбытхім». атрымалі ўзнагароды.

Такі поспех абумоўлены тым, што некалькі месяцаў таму на прадпрыемстве пачалася карэнная перабудова.

Кантрольны пакет акцыяў гэтага, у апошнія гады самага адстаючага, прадпрыемства Брэста ў 2000 годзе быў куплены групай акцыянераў на чале з маскоўскай кампаніяй *Ost-West Korporation (OWK)*.

За кароткі тэрмін масквічы правялі рэструктурызацыю даўгоў: поўнасцю пагашаны крэдыт у беларускіх рублях, падпісаны дагавор аб тым, што запазычанасць адной з чэшскіх фірмаў будзе выплачвацца на працягу трох гадоў, пагашана частка даўгоў па картатэцы, выплачана запазычанасць за энерганосьбіты і газ. З Расіі на прадпрыемства сталі ісці камплектуючыя і сыравіна. На заводзе адбылося невялікае скарачэнне штату кіравання, за кошт чаго некалькі павялічылася зарплата.

Упершыню за апошнія гады на прадпрыемстве не было вымушаных калядных канікулаў. З студзеня пачаў працаваць цэх аэразоляў: у гэтым месяцы плануецца выпусціць 700 тысяч балонаў, у лютым — 1 мільён (у лістападзе было выпушчана ўсяго 4 тысячы).

Разам з тым завод усё яшчэ стратны і псуе карціну эканамічных паказчыкаў Брэста, выклікаючы тым самым раздражненне ў чыноўнікаў. Дырэктар «Брэстбытхіма» Уладзімір Салавей прызнаецца, што працаваць яму зараз цяжка, аднак спадзяецца, што ў новым годзе з дапамогай расійскага капіталу ўдасца дасягнуць поспехаў.

Бо, зразумела, маскоўская кампанія *Ost-West Korporation (OWK)*, якая атрымала кантрольны пакет, не зацікаўленая страціць свае сродкі і згубіць для сябе шырокі рынак. ■

БелаПАН

# Фундаменты беларускай духоўнасці

## Беларускі дзяржаўны гуманітарны ліцэй імя Якуба Коласа на пачатку новага тысячагоддзя святкуе 10-гадовы юбілей

**Ірына ТОЎСЦІК**

Два гады назад ліцэй меў назву Беларускага гуманітарнага адукацыйна-культурнага цэнтра (БГАКЦ). Заснаваны ў 1991-ым у якасці нядзельных платных курсаў, ліцэй паступова набіраў моц навучаць жадаючых беларускай мове, гісторыі і культуры Беларусі больш паглыблена. І ўжо праз год адбыўся першы набор навучэнцаў на дзённае аддзяленне па цяперашнім адрасе—Кірава, 21. Такі вось пачатак мела элітарная навучальная беларускамоўная ўстанова, заснавальнікамі якой былі вядомыя грамадскія дзеячы і навукоўцы Алег Трусаў, Эрнэст Ялугін, Міхась Ткачоў, Зміцер Колас, Вінцук Вячорка, Ірына Коваль, Вячаслаў Каладзінскі, Ала Кажэра ды іншыя.

Пра эвалюцыю ліцэя распавядае адзін з яго галоўных заснавальнікаў, дырэктар Уладзімер КОЛАС.

***— Ці спраўдзіліся вашыя мары наконт ліцэя. Якім ён планаваўся быць і які ёсць цяпер?***

— Безумоўна спраўдзіліся, таму што ён ёсць. Калі ўсё пачыналася, менавіта такія мары і былі, каб ліцэй быў прэстыжным, беларускім.

***— Ці паўплывалі палітычныя, эканамічныя змены 94-га года на развіццё ліцэя?***

— Як ні дзіўна, не паўплывалі: развіцця не было. Не варта паляпшаць тое, што і так добра. Ліцэй сваю справу робіць, трымае выхаванне на добрым узроўні, ён прэстыжны, пра яго ўсе ведаюць. На жаль, сітуацыя вакол ліцэя не змянілася, ёсць папрокі ў бок ліцэя ў асноўным ад людзей недасведчаных. Ды ў рэшце рэшт не ўсё залежыць ад ліцэя.

***— Ліцэй—установа элітарная. Ці не зашмат пыхі ў ліцэістаў, ці не шкодзіць гэта выхаванню?***

— Пыха заўсёды шкодзіць. З другога боку, адчуванне ўласнай годнасці, адметнасці з'яўляецца станоўчым фактарам, які стымулюе, разнявольвае, адкрывае нейкія шлюзы ў нашай ментальнасці, нашай свядомасці.

***— Слава пра разумных дзяцей разнеслася далёка...***

— Сапраўды, нашыя ліцэісты вучацца і ў Канадзе, і ў ЗША, і ў Італіі, і ў Індыі, і ў Кітаі, у Нямеччыне, Аўстрыі. Мы нярэдка атрымліваем паведамленні з гэтых установаў пра поспехі ліцэістаў, адзначаецца іх міжнародны ўзровень эрудзіраванасці, адукаванасці



і па літаратуры, і па гісторыі, і па мове. Гэта дае падставы лічыць, што тыя метады, тыя праграмы, якія мы выкарыстоўваем, адпавядаюць сучаснаму стану развіцця адукацыі.

Трэба сказаць, што настаўнікаў мы не набіралі па конкурсе, але тут адбываўся своеасаблівы «натуральны» адбор. За гэтыя 10 гадоў засталіся тыя, хто адпавядае агульным патрабаванням, таму духу, які ўтварыўся ў ліцэі ад самага пачатку. Гэта дух неабыякавасці, адданасці справе, зацікаўленасці ў выніках працы. І не за грошы, бо яны невялікія, а за ідэю. Што добра для справы.

Увогуле не трэба з ліцэя рабіць абраз, які трэба вешаць у куце і на яго маліцца, а калі няма вартасцяў абраза, то таптаць, кідаць камені і распаўсюджваць розную брудную лухту. Ліцэй—гэта жывая справа, гэта жыццё, і ў ліцэі ёсць усё, што ёсць у гэтым жыцці.

***— Якія дні з 10-гадовага жыцця ліцэя вы можаце адзначыць асоба?***

— Нельга сказаць, што адбыліся нейкія глабальныя падзеі. Напэўна, і не павінна быць ніякіх геалагічных катаклізмаў, зрухаў. Падзея была, калі мы ўвайшлі ў гэты будынак, адстаялі яго і прымусілі сябе паважаць.

***— Спадар Уладзімер, ці можаце вы падзяліцца сваімі пажаданнямі адносна ліцэя?***

— Вядома, хацелася б нешта змяніць і ў навучальных праграмах, планах, даць больш магчымасцей для выбару ліцэістам, зменшыць абавязковы мінімум дысцыплінаў, наблізіць да сусветных стандартаў змест адукацыі. Няблага было б развіваць пазакласную, пазнавальную дзейнасць, ладзіць болей экскурсіяў. Некалі ў нашым цэнтры быў экскурсійны аддзел і была задумка, каб кожны ліцэіст убачыў самае цікавае, што ёсць на Беларусі. Раней былі рэгулярныя паездкі на Басовішча, у Польшчу, Літву. Таксама хочацца вярнуцца да ідэі стварэння філіяў ліцэя ў іншых гарадах, стварэння такога асяродку прэстыжнай беларускай адукацыі ў кожным абласным цэнтры. Адна, праўда, філія ёсць ужо ў Светлагорску. Тут трэба падтрымка ўладаў, якія б нарэшце зразумелі: калі мы Беларусь, то павінны з годнасцю ставіцца да сваёй мовы, гісторыі і культуры.

***— Што вы пажадаеце ліцэю, вучням, выкладчыкам?***

— Тое, вакол чаго і вялася наша гутарка. Настаўнікам— ацэнкі іх плённай працы, у тым ліку і матэрыяльнай. Вучням... у прынцыпе, ім і так тут няблага. Проста не згубіць у будучым тое, што яны тут набываюць. А ліцэю—капітальнага рамонту будынка і заставацца такім, якім ён ёсць. ■



Будынак Беларускага дзяржаўнага гуманітарнага ліцэя на вул.Кірава ў Мінску



Фота Ул. ШЛАПАКА

Ліцэісты 2001 года

# Чыноўнікі Адміністрацыі за дэнацыяналізацыю

## Заўвагі і прапановы на «Проект Закона Республики Беларусь «Об образовании в Республике Беларусь»

**Ефрасіння АНДРЭЕВА,**
**доктар педагагічных навук, прафесар**
**Леанід ЛЫЧ,**
**доктар гістарычных навук, прафесар**

Дзяржава, якая шчыра жадае выратаваць свой тытульны народ ад этнічнага вымірання, павінна клапаціцца аб тым, каб яго новая змена пасля заканчэння вучобы валодала здаровай гістарычнай памяццю, вызначалася трывалай нацыянальнай самасвядомасцю, была носьбітам уласных культурна-моўных традыцыяў, імкнулася ствральнай працай садзейнічаць умацаванню дзяржаўнага суверэнітэту, эканамічнаму і духоўнаму росквіту Бацькаўшчыны. Дасягненне такіх якасцяў у вырашальнай ступені залежыць ад навучальна-выхаваўчага працэсу, таму лагічная прысутнасць у «Праекце...» спецыяльнага 5-га артыкула «Языки обучения и воспитания». Толькі вырашальную для лёсу народа ролю мова адыгрывае ў тым выпадку, калі яна будзе не чужой, а роднай.

Ахілесава пята нашай адукацыі — выкарыстанне ёю на працягу ўжо некалькіх стагоддзяў лацінскай, польскай, рускай моваў і амаль поўнае выключэнне з педагагічнага працэсу роднага слова беларусаў. Як вынік, сёння сярод палітыкаў і інтэлігенцыі (тых катэгорыяў грамадства, якія ў найбольшай ступені ўплываюць на ўсе бакі жыцця краіны) мы не маем дастатковай колькасці людзей, што былі б у стане годна працаваць у беларускай культурна-моўнай стыхіі. Абсалютная колькасная перавага рускамоўных дзяржаўных дзеячаў і блізкіх да іх інтэлігентаў над такімі беларускамоўнымі катэгорыямі людзей не дазволіла з моманту ўводу ў краіне прэзідэнцкага кіравання ні кроку зрабіць па ўмацаванні сацыяльнай ролі беларускай мовы ва ўсіх сферах грамадскага жыцця.

Зусім не ставіць мэтай хаця б крыху паправіць жабрацкае становішча беларускай мовы ў адукацыі і дадзены «Праект...». Фармулёўка «Основными языками обучения и воспитания в образовательных учреждениях республики являются белорусский и русский» нікога не абавязвае мяняць моўную палітыку ў гэтай важнай сферы на карысць роднага слова народа, назву якога носіць суверэнная Рэспубліка Беларусь. Усякія спробы нацыянальна-патрыятычных, прагрэсіўных колаў грамадства павысіць ролю беларускай мовы ў выхаванні і навучанні грамадзянаў краіны будуць паспяхова адхіленыя спасылкамі рускамоўных палітыкаў, кіраўнікоў і педагогаў усіх тыпаў навучальных установаў на дадзены закон, у якім і руская мова вызначаная як асноўная ў навучанні і выхаванні.

Нам пара нарэшце спыніцца здзіўляць свет буйнымі непаладкамі ў дзяржаўнай моўнай палітыцы і без усялякіх хістанняў у заканадаўчым парадку надзяліць родную мову беларусаў такім аб'ёмам функцыяў у сістэме народнай адукацыі, якім у гэтай сферы руская мова карыстаецца ў Расіі, польская – у Польшчы, нямецкая – у Германіі, балгарская – у Балгарыі. Дакуль мы будзем жыць не так, як усе цывілізаваныя народы? Не толькі іх, але і наш уласны вопыт, назапашаны практычна ад самага часу ўтварэння ў студзені 1919 г. Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі, пераканаўча сведчыць, што народ не можа нармальна развівацца, калі дзяржава навязвае яму афіцыйнае двухмоўе. У такіх варунках мовы немінуча ўступаюць у бязлітасную канкурэнцыю паміж сабой, у выніку чаго перамагае тая з іх, на баку якой стаіць дзяржаўная ўлада.

Афіцыйнае двух- і шматмоўе неабходна толькі для краінаў, дзе два ці шмат народаў маюць сваю этнічную тэрыторыю, што дае кожнаму з іх законнае права захоўваць, развіваць, узбагачаць сваю культуру і мову, вольна карыстацца імі. У межах Беларусі этнічную, гістарычную тэрыторыю мае толькі адзін яе тытульны народ. Калі б такую тэрыторыю ў нашай краіне мелі рускія, палякі, украінцы, дык і іх мовам, у межах рассялення дадзеных народаў, улады павінны былі б надаць статус дзяржаўных. Яшчэ раз паўторымся, у Рэспубліцы Беларусь толькі беларусы жывуць на сваёй спрадвечнай этнічнай зямлі, з'яўляюцца яе абарыгенамі, карэннымі жыхарамі. Уся ж астатняя частка яе насельніцтва – гэта нацыянальныя меншасці, што ніколькі не прыніжае іх сацыяльна-палітычнага, культурнага статусу, як не прыніжае аналагічнае становішча беларусаў Расіі , Украіны, Малдовы ці якіх-небудзь іншых краінаў. Таму дзяржаўныя органы Беларусі свядома павінны надаваць прыярытэтнае значэнне выкарыстанню ў народнай адукацыі беларускай мовы, бо пра функцыянаванне рускай мовы ў сябе дома паклапоціцца Расія, польскай – Польшча, украінскай – Украіна, літоўскай – Літва. Распрацоўшчыкі ж «Праекта...» наўмысна абышлі ў артыкулах 25, 29, 35, 39, 44, 55, 60, 65 моўнае пытанне, ні ў адным з іх не зафіксавана, што незалежна ад мовы навучання ўсе тыпы навучальных установаў абавязаны даць выпускнікам такі аб'ём ведаў па беларускай мове, якіх хапіла б для паспяховага выканання імі сваіх прафесійных функцыяў.

Змест трэцяга абзаца 5-га артыкула «Граждане имеют право на выбор языка обучения и воспитания в пределах возможностей, предоставленных системой образования» вельмі добра перадае сутнасць сумнавядомай практыкі партыйных і савецкіх органаў, якія з канца 50-х гадоў выкарыстаслі ўжо даволі высокую ступень рускай культурна-моўнай асіміляцыі беларусаў, амаль поўную незапатрабаванасць іх роднага слова ў грамадскім жыцці. Гэта тады рукамі маладасведчаных у складанасці нацыянальна-культурнага пытання людзей пачалі пераводзіць у гарадах і раённых цэнтрах, сельскай мясцовасці беларускамоўныя школы ў рускамоўныя, а трохі пазней – увогуле вызваляць вучняў, у тым ліку беларускай нацыянальнасці, ад наведвання ўрокаў беларускай мовы і літаратуры.

І як разлічвала высокае чынавенства ў ЦК КПБ і Савеце міністраў БССР, нашыя навучальныя ўстановы, укараніўшы такую заганную практыку, падрыхтавалі процьму людзей з крайне адмоўнай рэакцыяй на пачутае беларускае слова. Яны не могуць быць нават пасіўнымі носьбітамі беларускай культуры і мовы. Усе нашыя няўдачы з выхадам у канцы 80-х – пачатку 90-х гадоў на шлях нацыянальна-культурнага Адраджэння праваліліся толькі з-за лютага супраціўлення яму ў першую чаргу адарваных ад сваіх гістарычных і духоўных традыцыяў беларусаў. Сусветная практыка, ды ў значнай меры і наша беларуская, поўная фактаў, што асіміляваная частка народа, нават тытульнага, часта выступае больш агрэсіўна супраць нацыянальна-культурнага адраджэння сваёй краіны, чым гэта назіраецца сярод яе этнічных меншасцяў. Апошніх хоць трохі сорам разбірае, а свае асіміляваныя – асабліва, калі яны займаюць высокія пасады ў грамадстве – нават ганарацца, што ў сябе дома праводзяць чужыя культурна-моўныя стандарты.

Пачынаючы з часоў імператрыцы Кацярыны II, руская сістэма народнай адукацыі ў нашым краі ўкаранялася дзяржавай, і цяпер яна павінна ўзяць на сябе асноўны цяжар у навучанні і выхаванні маладых пакаленняў краіны ролі беларускага нацыянальнага фактару, ідэалагічна рыхтуючы да такіх прагрэсіўных пераменаў усё грамадства. Яно стане шчырым прыхільнікам нацыянальнай сістэмы адукацыі, як толькі ўбачыць, што органы дзяржаўнай улады, міністэрствы і ведамствы, прадпрыемствы і ўстановы запрацавалі па-беларуску, што ў краіне ствараюцца беларускамоўныя вышэйшыя навучальныя інстытуцыі. У сённяшняй афіцыйнай культурна-моўнай сітуацыі моцна зрусіфікаваныя грамадзяне проста не ў стане зрабіць такі выбар мовы навучання і выхавання, які адпавядаў бы нацыянальным інтарэсам беларускага народа, скіраваў бы яго на шлях уласнага этнакультурнага развіцця, вызваліў бы ад усіх формаў асіміляцыі.

Дэнацыяналізацыя тытульнага народа Рэспублікі Беларусь дайшла да такіх пагражальных межаў, што выратаваць яго ад канчатковага этнічнага вымірання можа толькі клопат дзяржавы. І пачынаць ёй трэба, зыходзячы з набытага сусветнай практыкай вопыту, у першую чаргу са стварэння сапраўднай, а не прывіднай сістэмы нацыянальнай адукацыі. ■

### ПАВАЖАНАЕ СПАДАРСТВА!

Запрашаем вас прыняць удзел у святкаванні 10-годдзя Нацыянальнага дзяржаўнага гуманітарнага ліцэя імя Якуба Коласа, якое будзе праходзіць з 15 па 19 студзеня.

**Праграма святкавання:**

**15 студзеня** – дзень адчыненых дзвярэй (з 10.00 да 14.00), прэс-канферэнцыя (пачатак у 15.00).

**16 студзеня** – настаўніцкая навуковая канферэнцыя (пачатак у 10.00).

**17 студзеня** – вучнёўская навуковая канферэнцыя (пачатак у 10.00).

**18 студзеня** – спартыўнае свята ў ліцэі (пачатак у 10.00).

Спектакль «Народны альбом» ліцэйскага тэатра ў памяшканні Тэатра юнага гледача (пачатак у 18 гадзінаў).

**19 студзеня** – урачыстая вечарына ў памяшканні Палаца культуры МАЗ (пачатак у 18.00).

**Запрашэнні можна замовіць у ліцэі па адрасе: вул.Кірава, 21, прыёмная або пакой № 6. Тэлефоны для даведак: 227-32-77, 226-10-73.**

# Валчкоў – сёмы па рэйтынгу ў свеце

**Аляксей СТАЎСКІ**

Згодна з новым рэйтынгам, апублікаваным асацыяцыяй тэнісістаў-прафесіяналаў, беларус Уладзімір Валчкоў пасля свайго вельмі паспяховага выступлення на турніры ў сталіцы Катара на мінулым тыдні займае сёмы рэйтынгавы радок! Праўда, трэба дадаць, што гэта стала магчыма дзякуючы штогадоваму абнаўленню рэйтынгаў усіх тэнісістаў (так пачынаецца «Чэмпіёнская гонка»), бо кожны год усе тэнісісты пачынаюць свой рэйтынг з нуля.

Цяпер гэты поспех Уладзімір паспрабуе замацаваць на вельмі прэстыжным турніры з серыі АТП у аўстралійскім Сіднеі з прызавым фондам зноў-такі больш за адзін мільён долараў. Там у паядзелак сабраліся ўсе мацнейшыя тэнісісты свету, за выключэннем некалькіх траўміраваных. Уладзімір у першым крузе згуляе са знакамітым, але ўжо ў пенсійным па тэнісных мерках узросце швейцарцам Маркам Рассэ. Выступіць у Сіднеі і другі наш тэнісіст Максім Мірны. У яго першакругавы сапернік – Крыстоф Рохус з Бельгіі.

Таксама ў Аўстраліі зараз знаходзяцца дзве нашыя тэнісісткі Вольга Барабаншчыкава і Таццяна Пучак. Абедзве ў горадзе Хобарт прымаюць удзел у турніры з прызавым фондам 110 тысяч долараў ЗША. Дакладней, ужо адна, бо Вольга ў які ўжо раз праявіла сваю тэнісную бесхарактарнасць і прайграла ўжо ў першым крузе румынцы Руксандры Драгамір – 2:6, 3:6. Таццяна Пучак наадварот перамагла сваю саперніцу, маладую Віргінію Паскаль – 6:4, 7:6. Наступная саперніца Пучак амерыканка Крысціна Брэндзі.

Аб працягу тэнісных турніраў у наступным нумары. ■

# Цяпер спадзяванні на Рупальдзінг

**Аляксей ШЫДЛОЎСКІ**

Без уваходжання ў дзесятку лепшых закончылі і апошнюю сваю гонку нашы біятланісты на этапе Кубка свету ў нямецкім горадзе Аберхофе. Нагадаем, што і ў мужчын, і ў жанчын гэта былі доўгія дыстанцыі. Лепшым з усіх нашых спартсменаў стаў Алег Рыжанкоў – адзінаццатае месца. Праўда, трэба дадаць, што Вадзім Сашурын хварэў і не здолеў выйсці на гэты этап Кубка свету.

Цяпер усе нашы спадзяванні пераносяцца на нямецкі горад Рупальдзінг, што таксама ў Германіі. Ужо заўтра там пройдуць дзве эстафеты, на якіх традыцыйна больш-менш паспяхова выступаюць беларусы. Затым нас чакаюць два спрынты ў пятніцу і суботу адпаведна і нядзельныя стаерскія дыстанцыі.

І хацелася б, каб нарэшце нашы біятланісты пачалі ўваходзіць у форму, бо ўсяго два этапы засталося да чэмпіянату свету, што гэтым разам пачнецца трэцяга лютага ў славенскай Паклюцы. ■

# Эстонцаў прайшлі. На чарзе Італія

**Аляксей ЗУБРОЎСКІ**

Перамогай з лікам 31:23 скончылася другая гульня нацыянальнай гандбольнай зборнай Беларусі з камандай Эстоніі. Дзякуючы ёй беларусы выйшлі ў лідэры групы з чатырма набранымі ачкамі. Але галоўнае выпрабаванне чакае нашых на гэтым тыдні – італьянцы. Набраўшы тры ачкі ў гульнях з аўстрыйцамі, тыя паказалі, што з'яўляюцца адзінымі сапернікамі нашых гандбалістаў у барацьбе за пуцёўку з групы на чэмпіянат Еўропы. Першая гульня пройдзе заўтра, адзінаццатага студзеня ў Італіі, а гульня ў адказ – у нядзелю, чатырнаццатага ў Мінску, у палацы спорту СКА, што ва Уруччы. Нашым гандбалістам вельмі трэба будзе падтрымка, бо ў выпадку паразы мы губляем усе практычныя шанцы на траплянне на чэмпіянат Еўропы. Пры падвойнай жа перамозе наадварот гэтыя шанцы будуць складаць прыкладна 99%. ■



# Битва маленьких интеграторов

**Владимир ДОВЖЕНКО**

**«Москва–Минск» – именно в такой последовательности, а не наоборот, были написаны эти два слова на красочных и очень дорогих афишах, которые извещали минчан, что молодежный турнир по хоккею проходит в столице... Беларуси. Странно, не правда ли? Еще больше удивляешься, когда узнаешь, что в нем играют также сборные Омска и Риги. Ну, Омск все же российский город, а вот столица Латвии...**



Фота Ул.ШЛАПАКА

Впрочем, удивляться приходилось все время. И когда на свитерах белорусских хоккеистов было написано название не города, который они здесь представляли, а всего государства. На большом плакате рядом со словом «Дружба» стояло не понятно для чего написанное «*FREUNDSCHAFT*»... На той же афише читаешь: «Под патронажем Президента Республики Беларусь А.Г.Лукашенко», а в зале же висела растяжка со словами, что все событие находится «под эгидой Президента»... Насколько я понимаю, первое – патронаж – подразумевает опеку, второе – эгида – чуть ли не сочувствие.

Скорее был патронаж, потому что и конвертик в конце президент вручил победителям, и на той же афише, в самом центре, за эмблемой турнира – симпатичного мишки – художник вписал контуры до боли узнаваемой фигуры...

История возникновения этих соревнований столь же обычна как утром рано проснуться. Осенью прошлого года во время одного из интервью на РТР главу государства, между делом, спросили, а не слабо ли провести такой вот турнирчик в Беларуси?! Утвердительный ответ был получен моментально, и растроганные московские телевизионщики даже пообещали финансовое участие. Позже, как и полагается у них, про финансы забыли, но идея настолько пригодилась в год выборов, что расцвела новыми красками... А деньги... Бог с ними! Что мы в самом деле победнеем: ни с этого, так с другого бюджета взаймы возьмем! И взяли, сумму совсем смехотворную, около полсотни миллионов новых белорусских рублей.

Как минимум. Эка невидаль!

В положении о турнире, где там про цели всякие и задачи, написали: «Для развития и популяризации детско-юношеского хоккея в республике...». Благое дело.

Вы на минуточку представьте себе, как совершенно за бесплатно входят под своды крытого катка в парке Горького во время зимних каникул тысячи минских школьников и занимают все 756 посадочных мест. И мы с вами три дня совершенно спокойны и уверены в том, что наши отроки будут приобщаться к этому самому развитию и популяризации. Даже на время забудем, что самая дешевая клюшка стоит сейчас не менее 7 долларов, а самая простенькая хоккейная экипировка – 150. Итак, турнир для юношества, для него родного... Чтоб отвыкали от улицы, вредных привычек разных...

Только вот неувязочка получается: а куда посадить всех остальных официально приглашенных, людей по возрасту уже далеко не мальчиков? А ведь их совсем немало.

Начнем загибать пальцы хотя бы одной руки. Все посольства, руководители и кто рангом пониже всевозможных администраций, простые трудящиеся с заводов и предприятий, спортивные и околоспортивные функционеры, начальники всех министерств, специалисты и тренеры, пресса, на худой конец.

Вот и призадумаешься – для кого же организован этот молодежный турнир с таким странным названием. А тут еще целая бригада с РТР чуть ли полнометражный фильм снимает и даже покажет.

Заключительный игровой день вообще целого жизнеописания стоит. Календарь был составлен так, что именно в последней игре решалась судьба того президентского конвертика... Толпа у входа собралась неимоверная. Пришлось пробиваться... В зале были замечены все видеокамеры первого национального телеканала, там и сям мелькала большой знаток Олимпийских игр и хоккея некто Хрущева. С грустью вспомнилось, что сюжет о Вячеславе Хоронеко удосужилось показать даже телевидение Монако и Монте-Карло, наше же единственное – в десяти минутах езды – так и не сподобилось. Нет интереса! Здесь же, конечно, он был... Ведь под патронажем или эгидой, как хотите...

Сама игра не уступала, пожалуй, знаменитой битве под Оршей в 1514 году.

Как тут лупили друг друга братья-славяне, будущие интеграторы! Словно бандиты какие-то! Не иначе как «Сеча под Минском в 2001 году» этот турнир и попадет в историю. Судите сами: 34 минуты штрафного времени у москвичей, 28 – у минчан. Шла стенка на стенку. С такими показателями не то что приза «Fa ir play» не видеть, так и в анналы МЧС попасть можно запросто, наряду со взрывами всякими...

Наши проиграли 3:6, хотя приличная часть команды и состояла из детей хоккейных знаменитостей в прошлом.

В конце было закрытие с маленьким кубком и вполне заметным конвертом, и все узнали из уст патрона, что мы участвуем в «большой дипломатии наших государств». Все стало ясно, хотя в целях и задачах упоминалось совсем другое.

Итоговую пресс-конференцию отменили. Неофициальная причина: президент будет тренироваться, нечего мешать, ведь уже в ближайший понедельник в белокаменной, в программе дней белорусской культуры состоится матч (нового) века: ветеранов двух столиц. И нужно быть в форме.

Интересно, а как будет выглядеть афиша уже этого матча?

В общем, сделать то, что мы видели, это даже не коников лепить и уж не аэропорт с вокзалом построить. Все просто, хотя и голова болит не этим, а предстоящими выборами. Впрочем, каждому овощу – своя банка. Повторится ли подобное на следующий год? Тогда с каким названием? «Москва–Петушки»?

Вопросов больше, чем ответов. Но все же вертится в голове мысль, что именно этот – «Москва–Минск» – на один год и был он, скажем так, одноразового пользования. Вот только от чего?

**P.S.** Как бы там ни было, эти соревнования я буду помнить всю жизнь! Финальную игру смотрел, сидя в ряду «Пресса», и во втором периоде, увлекшись разговором с коллегой Николаем Петропавловским, пропустил удар справа. Шайба, надеюсь, случайно, и заговором против журналиста НАШАЙ СВАБОДЫ вряд ли тут пахнет, после очередного вбрасывания, покинула пределы площадки, пролетела над заградительным бортиком и попала мне под самое ухо, в правую скулу. Все обошлось... Ужинал я нормально. Недругов, если они и есть, прошу не звонить. Не дождетесь... Саму виновницу произошедшего я поместил дома на самом видном месте, домашним свой небольшой синяк объяснил тем, что пострадал за интеграцию! В последний ли раз? ■

# Альберт Скороход: Мне хотелось видеть жизнь наивной!

**Владимир ДОВЖЕНКО**

На новогодние и рождественские праздники артисты, как обычно, были нарасхват. Вот уж действительно, день год кормит. Число концертов, выступлений для многих из них переваливало за три-четыре в день. Альберту Скороходу пришлось еще «отвлечься» на подготовку и проведение юбилейного вечера, посвященного 20-летию собственной спортивно-творческой карьеры. Двухчасовой авторский концерт в окружном Доме офицеров прошел на «ура». В свои сорок лет именинник был очень даже «молодежен», оригинален, любим, а когда в самом конце программы исполнил на «бис» свою коронку – «Перевернутый мир» – просто потонул в овациях!

А.Скороход: «Для меня участие в праздничных мероприятиях – дело не новое. И помимо традиционных нескольких выступлений в день, за символический гонорар, я еще успевал спеть для друзей, откликнуться на чью-либо просьбу. Все еще неплохая спортивная форма гарантирует запас и на большие нагрузки. А вот уж где пришлось попотеть, так это при организации и проведении собственного концерта. Столько было угроблено собственного здоровья, затрачено кровных денег, потрачено нервов и, главное, отбито поклонов в разных государственных инстанциях...

Будь у меня специальная лицензия на творческую деятельность, а она стоит без малого 3 тысячи у.е., вопросы решались бы почти сами собой, предложи я хоть фантастический проект. А так ты – артист второго сорта, и каждый, кто сидит на шестке повыше, не то чтобы ногой пнуть, а, что больнее и горше – норовит поживиться за твой счет. Оно понятно: чинуш множество и все хотят кушать. Но, извините, клюв в сторону любого «заслуженного» никто не раскроет, значит... А у меня же в концерте занято до полсотни человек, и они, в отличие от чиновников, трудятся на сцене. А тут за каждое «можно» «спасибом» не отделаешься... Одним словом, проводить в такой ситуации творческий вечер – самоубийство!

Не секрет, что купить столь дорогое разрешение – не по карману очень многим. Вот и приходится крутиться, стоя на голове.

Правда, есть еще вариант: неси свою трудовую книжку в «Белконцерт», получай зарплату в 30–40 тысяч и – зеленая улица! Только вот выступать будешь, когда скажут, сочинять и петь – тоже «под дудку». А для артиста подобное – смерть. Не для всех, конечно... Я, слава Богу, в эти «конечно» не вхожу! И никогда не буду. Лучше уж петь на голове, чем на коленях! ■



Наша справка: А.Скороход четырехкратный чемпион СССР и СНГ, призер Кубка мира по кикбоксингу, мастер спорта международного класса, капитан сборной команды артистов белорусской эстрады по футболу «Арт-Старз», победитель II международного конкурса «Мир музыки-99» в Италии (номинация «Сольный исполнитель»), художественный руководитель Театра спорта и эстрады «Дельта-шоу», певец, композитор, автор необычного трюка: песню собственного сочинения «Перевернутый мир» поет, три минуты 20 секунд, стоя... на голове.



Фота Ул.ШЛАПАКА

Галоўны рэдактар
**Павел ЖУК**

© НАША СВАБОДА. Спасылка на газету НАША СВАБОДА абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі
Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдаецца з 25 лютага 2000 г. Заснавальнік Зміцер Жук.
Выдавец – рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА. E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана ў друкарні УП «Мэджык»
г. Мінск, ул. Кнорына, 50. Заказ №18 Нумар падпісаны ў друк 07/01/2000 (15.00) Наклад – 14.580